гатовасьць «падставіць левую, атрымаўшы ў правую» ужо павінна спараліжаваць і патрэбу «падстаўляньня», і самую чалавека ня годную зьяву біцьця (павінна, калі гэтая грамада запраўды хрысьціянская). У грамадзе-ж, сказаць-бы, антыхрысьціянскай (ці яшчэ лепш — антыхрыстаўскай) б'юць і па правай і па левай не чакаючы, пакуль другі пачне...

Усё гэта, пэўна, кажнаму аж надта ясна, бо вельмі проста. Аднак, калі даводзіцца спатыкацца міжсобку розным грамадам з рознымі разуменьнямі й практыкаю «такту», тады справа вельмі ўскладняецца. Пры гэткім спатканьні звычайна найперш церпяць тыя грамады, чый «такт» вышэйшы ў сваёй чалавечнасьці — аж пакуль не ізалююцца, або не прытарнуюцца да «такту» супраціўніка. З другога боку, і на «такт» ніжэйшае грамады робіцца пэўны уплыў з боку вышэйшае. Вельмі часта гэты ўплыў выражаецца ў тым, што гэная ніжэйшая грамада, засвойваючы сабе г. зв. «комплекс ніжэйшасьці», пачынае ўсьведамляць усю заганнасьць свайго звыклага «такту» й імкнецца неяк падцягнуцца да «такту» вышэйшага. Часта гэта даходзіць да імкненьня «ўзвысіцца» за ўсякую цану, разьвіць нейкі яшчэ больш «тактычны» «такт», стацца, як кажуць «яшчэ большым каталікам, як сам папа рымскі». Гэткую зьяву калісь вельмі добра апісаў ведамы Гогаль, паказаўшы мяшчанскіх «дамаў», якія ў сваім імкненьні пераняць найарыстакратычнейшы «такт» баяліся навет такіх выразаў, як, прыкладам, «высмаркацца», заступаючы іх быццам-бы вельмі ўжо «тактычнымі» і ультраарыстакратычнымі пэрыфразамі — «абыйсьціся за пасярэдніцтвам насавое хустачкі»...

Усё гэта лёгка можна бачыць і на нашых «родных зьявах». Нашая сялянская грамада, гэтая калыска сяньняшняга нацыянальнага грамадзтва, мела, дый яшчэ шмат дзе дасюль захавала, і свой арыгінальны такт, адпаведны ейнаму зусім ня нізкому культурнаму ўзроўню. Гэты такт, прыкладам, не дапушчаў ані гадкай лаянкі, ці бойкі, ані «тыканьня» пры узаемных зваротах, ані шмат чаго іншага. Навет нашая сялянская, проста нацыянальная ў сваёй форме, кляцьба сваёй «тактычнасьцяй» ня можа йсьці ў ніякую супаставу з рознымі агіднымі «матамі» некаторых іншых нацыяў. А блізкі да гэтага цікавы звычай крытыкаваць некага ня проста, а ў нейкай трэйцяй і няведамай асобе — усё гэта праявы далёка не прымітыўнага або «хамскага» такту. Нажаль, аднак, ад спатканьняў зь іншымі грамадамі, асабліва з грамадой маскоўскай, пачынаючы ад часоў першае сусьветнае вайны, увесь гэты наш, нацыянальны ў сваіх формах, сялянскі з паходжаньня такт мусіў вельмі пацярпець. І цяпер ад яго засталіся толькі абломкі, і то часта сяньняшняй інтэлігенцыі проста нязнаныя й зусім не культываваныя. Затое аб'явы такту, сказаць-бы, «матавага» — сталіся зусім не навіною...

Цяперака-ж на эміграцыі адбываецца яшчэ адно спатканьне нашае грамады зь іншым грамадзтвам — гэтым разам з грамадзтвам заходня-эўрапейскім. І вось у гэтым спатканьні шмат хто з нашых людзей сам і без патрэбы ставіць сябе ў палажэньне гэных гогалеўскіх «дамаў». Адным здаецца, што гэтая Эўропа вымагае нейкага найвышэйшага, нам зусім нязнанага «такту», нейкага асаблівага «абыходжаньня за пасярэдніцтвам насавое хустачкі». Другія, зноў-жа, сьпяшаюцца выказваць пачуцьцё свайго абражанага, быццам-бы ўжо шчыра-эўрапейскага слыху, пачуўшы якое-небудзь «высмаркацца»... У гэтым усім і крыюцца запраўдныя прычыны гвалтоўнае бальшыні ўсіх тых гаворак пра «нятакты», якія так часта чуюцца ў нас сяньня.

Ведама, што ўсё гэта — толькі праявы таго-ж «комплексу ніжэйшасьці» і незнаёмасьці з запраўдным жыцьцём Эўропы (дарэчы, шмат нашых ультратактычных «эўрапейцаў» ня знае аніводнае эўрапейскае мовы, тым самым ня маючы фактычна й доступу да самое Эўропы). Кажны, хто бліжэй пазнае Эўропу і з практыкі дачыненьняў, і зь літаратуры — лёгка пераконваецца, што няма ў ёй аніякае такое гіпэртрафіі «тактычнасьці», і што эўрапейскі нармальны такт зусім мала розьніцца ад таго нашага сярэдняга нацыянальнага сялянскага такту даваенных часоў, аб якім вышэй гаварылася. Дык таму, хто на гэткім такце ўзгадаваны ці ўзгадуецца, ня будуць ані свойскія запраўдныя нетактоўнасьці, ані страшныя «нятакты» мітычныя. Трэба толькі добра прадумаць гэта, прааналізаваць самых сябе і, галоўна, не баяцца хоць самым перад сабою ўва ўсім прызнацца.

Але ёсьць тутака й яшчэ адна цікавая рэч. Ня толькі іншыя кажуць, а й ад самых людзей часам можна пачуць: «Я пайшоў да чужых і варагоў таму, што з боку сваіх у дачыненьні да мяне былі нятакты. Нятакты гэтыя адшпурнулі, адкінулі мяне ў чужы й варожы лягер...». Вось гэткая аб'ява «такту» ужо зусім цяжка даецца зьмясьціцца ў нармальнай людзкой галаве — «kommt nicht durch», як добра ў такіх разох кажуць Немцы. Хіба чалавека сьведамага, ідэйнага (а бадай заўсёды такія людзі прэтэндуюць на гэткую годнасьць) — можа зьвесьці куды-небудзь убок — ня тое, каб зусім «адшпургнуць» — нейкі, які-б ён там ні быў — «нятакт», звычайная будзённая зьява асабістых людзкіх, бытавых, а не ідэйна-нацыянальных дачыненьняў? Якая-ж тады цана тае ягонае ідэйнасьці? Што можа мець ад яго Бацькаўшчына, «што з пустой каліты выйме», як добра казаў паэта?

Не, як сабе хто хоча, але трэба некаторым людзям добрым над усім гэтым добра й задумацца. Бо карыстае з гэтага толькі ўсё той-жа, які «слушает да ест», разьдзьмухваньнем гэтых «тактаў» і «нятактаў» разьбіваючы грамаду, адцягваючы ад пазытыўнае працы, заводзячы ў сутачкі бязвыходнасьці й пустога тупаценьня на месцы, пераліваньня з пустога ў парожнае ў бясконцых дыскусіях пра «тактыку», нарэшце — прытупленьня пільнасьці й расслабленьня адпорнасьці на варожае й сьмяротна-небясьпечнае. Дык-жа будзем запраўды захоўваць такт у ўзаемадачыненьнях — наш здаровы, нацыянальны, «мужыцкі», калі хочаце, такт без усякага хамства, але й бяз штучнага паненства, будзем старацца стацца запраўднымі Эўрапейцамі — ды не дадзёмся-ж ачмуціцца ўяўнымі «зерцаламі» мітычных «узораў такту», падсоўваных спрытна ведамымі баламутамі ў надзеі на пэўны «комплекс ніжэйшасьці» і замарожаньне ўсякага руху

Наагул-жа, сяньня для нас можа быць тут толькі адно:

З братам — пабратняму, з ворагам — воража,
Любы мой дружа! Заўсёды так хораша.

І праўда, што можа быць харашэйшага й прасьцейшага за гэтае сфармуляваньне запраўднага нацыянальнага такту, дадзенае сваім часам адным з найбольшых нашых трыбунаў У. Дубоўкам?

Але-ж, «з ворагам — воража». Гэтага найбольш і ня любіць, і баіцца той вораг, стараючыся замыліць вочы «тактамі» й «Эўропамі», ад якіх сам — за тысячы кілёмэтраў... Дык-жа ці даваць яму цешыцца?

Хай падумаюць аб гэтым найперш нашыя «тактыкі». Ведама, і наш артыкул таксама можа выдацца ім свайго роду «нятактам». Адно, што тут зробіш — давядзецца ўжо неяк выбачаць, калі запраўды яны ўжо гэткія тактоўныя — бо які тут іншы выхад, як казаў Шолам-Алейхем...

# НАВУКА ЧЭХАСЛАВАЧЧЫНЫ

**Бэрлін (ДЭНА).** Кіраўнік аддзелу выбараў і палітычных партыяў пры амэрыканскім вайсковым кіраўніцтве, Рычард М. Скэман, даў праз радыё, у межах сэрыі перадачаў «Свабода супраць таталітарызму», крытычны разгляд апошніх падзеяў у Чэхаславаччыне.

**«Навука Чэхаславаччыны простая: ня можа быць ніякага кампрамісу з таталітарызмам»,** — сказаў Скэман, раўнуючы развой у Празе з падзеямі 1933 г. у Нямеччыне. Прамоўца прыйшоў да выснаву: «Канцы заходняму прабою таталітарнага камунізму маглі-б — і навет мусяць — легчы ў Чэхаславаччыне». Скэман выноўвае, што «нешчасьлівыя падзеі», якія перажывае Чэхаславаччына, як-бы можа парадаксальна гэта ня гучэла, даюць аснову да надзеі, повад да новае адвагі. Чэскі народ, праўда, страціў абраны ім урад, але не пазбыўся дэмакратыі, свойскай самому народу. Камуністыя таксама, як нацыстыя, забыліся, што кажны напор спараджае адпор.

Ідэя свабоды, якая ў Чэхаславаччыне засталася захаваўшыся, якраз роўна сто год таму прывяла ў Нямеччыне да паўстаньня лібэральна настроеных людзей супраць манархічнае тыраніі.

Упадак чэскае дэмакратыі Скэман зводзіць да трох галоўных прычынаў: ваеннага абступленьня, палітычнага прасякненьня й эканамічнае ізаляцыі ад дапаможных крыніцаў Захаду.

**Заходнія дэмакратыі толькі памалу здабылі зразуменьне існасьці таталітарызму, аднолькавае, ці выступае ён як фашызм, як нацызм, ці як камунізм.** Гэтым разам гэтае адзнаньне й адпаведная рэакцыя настае борзда. Сярод 16 нацыяў Захаду паўстаў новы дух супрацоўніцтва, настаўлены на мір, а не на вайну, на адбудову, а не на разбурэньне, на сілу без надужываньня яе й на свабоду ад страху. Гэты дух не знаходзіць свайго выразу ў гвалце.

Супрацоўніцтва вольных народаў разьвіе сілу, большую, чымся кажная форма блёку, штучна створанага імпэрыялістычным мілітарызмам або палітычнымі інтрыгамі, бо такое адзінства грунтуецца на волі свабодных народаў.

Тэхнічны мэтад, ужыты пры паваленьні Чэхаславаччыны, аж надта нагадвае нямецкія дачыненьні ў 1933 г. У вабодвух выпадках таталітарныя сілы кантралявалі паліцыю й армію. Умеркаваныя групы, што ня вельмі хацелі верыць, на якія скрайнасьці замахваюцца сілы, што ймкнуцца да ўлады — спачатку неразумна былі гатовыя да супрацоўніцтва. Тады ў Празе, як і ў Бэрліне, быў дадзены ўдар змайстраванай «змовай»: нацы падпалілі райхстаг, праскія камуністыя выкрылі «рэакцыйны замах супраць народу». Скэман прадбачыць, што ў наступных выбарах «чырвоныя фашыстыя», як і іхныя «брунатныя браты», абвесьцяць поўную перамогу, і што **старая фраза аб «нацыянальным адзінсьцьве» зноў будзе дэманстравацца перад стэрарызаваным жыхарствам, якое ведае, што «нацыянальнае адзінства» для камуністых значыць адзінства могілак і канцэнтрацыйных лягераў».**

«Эканамічная й духовая адбудова ў Заходняй Эўропе — цяпер адзіны адказ на тактыку, што перамагла ў Чэхаславаччыне», — высноўвае Скэман.

У Францыі й Італіі гэтая тактыка адмовіла, бо гэтыя народы адкідаюць сыстэму, якая абмяжоўвала-б іхныя індывідуальныя свабоды. Францыя й Італія, насупраць Чэхіі й Славаччыны, былі ў стане правесьці сваю волю, бо яны ня былі пад пагрозаю звонку ані ў вайсковым, ані ў эканамічным ці палітычным дачыненьні.

Палітычна цяпер палі між дзвюма формамі ўраду разьмежаваньня. Чэхаславаччыны цяпер больш няма на абтоку дэмакратыі ў моры чырвонага абсалютызму. Ды ўсё-ж ніхто не павінен думаць, што гэтая лінія мусіць абазначаць трывалы падзел сьвету й Нямеччыны. «Ня толькі для спадзяванага задзіночаньня Нямеччыны дарога вольная, але й прыроднае ды гістарычнае ўзаемадачыненьне між заходнімі і ўсходнімі часткамі Эўропы няўхільна разбурыць усе хвалышывыя й штучныя палітычныя перасьценкі». Зазначаючы на эканамічную канечнасьць, якая змушае Усход да гандлю з Захадам, Скэман закончыў словамі: **«Сяньняшняя праская трагедыя — гэта таксама пэўны заўтрашні трыумф дэмакратыі, як дзесяць год таму мюнхенская трагедыя была абуджальным клічам і сыгналам пагрозы гітлерызму».**

# СТРАТЭГІЯ й ТАКТЫКА КАМУНІЗМУ

**Вашынгтон (ДЭНА-ОАНС).** Адзін із камітэтаў Камісіі Замежных Справаў Амэрыканскага Кангрэсу апублікаваў падрабязную справаздачу пра стратэгію й тактыку сусьветнага камунізму. Справаздача характарызуецца, як «уклад у грамадзкае зразуменьне пытаньня, якое даўно сталася за прычынак да заклапотаў і кантравэрсаў аж да непатрэбнае й небясьпечнае ступені».

Тры часткі справаздачы абыймаюць: «Тэорыю й практыку сусьветнага камунізму», «Тактыку камунізму» й «Контракцыі». Да апраўздачы дададзеныя дакумэнты ў дзьвюх частках.

Сябры Камітэту, пасьля падрабязнага дасьледваньня палітычнага палажэньня ў Эўропе й на Блізкім Усходзе, устанавілі 10 выснаваў пра камунізм: 1) камуністыя маюць адну мэту — сусьветную рэвалюцыю, 2) яны прыймаюць, што рэвалюцыя павінна быць гвалтоўнай, 3) яны ня могуць згадзіцца на ідэю, што адгэтуль мог-бы запанаваць мір, і лічацца з далейшай катастрафальнай вайной, 4) Савецкі Саюз разглядаецца, як галоўная сіла рэвалюцыі, 5) камуністыя баяцца кааліцыі супраць Савецкага Саюзу, 6) таму яны баяцца адбудовы або фэдэрацыі некамуністычнага сьвету, 7) яны выкарыстоўваюць найнавейшы й найдзяйнейшы спосаб «халоднае вайны», каб узмацніць собскія сілы й паслабіць іншых, 8) камуністычныя партыі вонках Савецкага Саюзу — гэта апекаваныя партнэры або дапаможныя аддзелы, 9) тактыка базуецца на моцнай тэорыі, найважнейшыя пункты якое нязьменныя, 10) падзел сфэраў уплыву ў Эўропе й Азіі між пераможцаў сусьветнае вайны мусіць рэгулявацца палітыкай сілы, а не перамовамі.

У пытаньні «контрмерапрыёмстваў» Камітэт дайшоў да выснаву, што спачатку мусіць быць азначаная частка сьвету, якая падлягае ахове. Ня кажная з паасобных нацыяў можа выпрацаваць для сябе пазытыўныя мерапрыёмствы дзеля эканамічнае стабілізацыі, міжнароднага супрацоўніцтва й міру. Усе гаспадарствы ў прамысловым дачыненьні ў вялікай меры залежаць ад іншых краёў. Справаздача патрабуе згуртаваньня некамуністычных гаспадарстваў, да чаго мусяць быць прыцягнутыя й Блізкі Усход зь ягонымі нафтавымі крыніцамі, як і Францыя, Італія, Нямеччына й Кітай. Унутры гэтага ўсяго некамуністычнага абшару трэба перасячы ўсе мерапрыёмствы камуністых для сабатажу і ўмяшаньня. Як «нэгатыўныя контрмерапрыёмствы», пададзеныя наступныя прапановы: 1) камунізм мусіць аналізавацца руплівей, як у мінуласьці; публікацыі пра камунізм мусяць выходзіць у такой даступнай форме, каб яны былі зразумелыя ўсім дэмакратычным народам сьвету, 2) трэба адмовіць камуністым ува ўсякіх перавагах і спрыяньнях, праз якія яны маглі-б праводзіць сваю інфільтрацыю, 3) пэўныя мерапрыёмствы палітычнае абароны мусяць ужывацца ў якмага большым ліку некамуністычных краёў; ЗША маглі-б забясьпечыць прынамся поўнае зразуменьне й больш напярэймыськіраванае падтрыманьне мерапрыёмствам на карысьць мацнейшых дэмакратычных урадаў і менш напярэймыськіраванае — ультрадэмакратычным тактыкам камунізму (больш і менш, чымся гэта было ў мінуласьці), 4) трэба ўжыць мерапрыёмствы гаспадарскае абароны як ЗША, так і іншых некамуністычных краёў; гандаль із СССР павінен базавацца на аснове роўных выгодаў для абодвух бакоў, прычым з абодвух-жа бакоў павінны захоўвацца й забавязаньні, 5) мусіць прапагавацца, што мы пайшлі далей наперад, чымся яны, што мы рэвалюцыю маем ужо за сабою, што мы дакляруем мір, а не вайну, тымчасам як яны могуць дакляраваць толькі вайну, а ня мір, 6) нельга ўпадаць у ўзаемныя абвінаваччаньні, 7) калі-б толькі мы мелі ўдачу, дык камуністычная палітыка хісьнецца ад радыкальнае афэнзывы да ўмеркаванае дэфэнзывы. Тады мы мусім парупіцца аб тым, каб яны ніколі ня сталіся зноў афэнзыўнымі.

Як «пазытыўныя мерапрыёмствы», Камітэт у сваёй справаздачы адзначае канечнасьць трымаць гаспадарку на адным узроўні, і надалей высьцерагаючыся дэпрэсіяў. Апрача таго, трэба ясна выкласьці ідэйнае дабро некамуністычнага сьвету. Яснасьць ідэяў — моц камуністых.

Два дадаткі да справаздачы абыймаюць 22 дакумэнты й выясьненьні пра камунізм ад «Камуністычнага Маніфэсту» 1848 г. да апошняе прамовы Молатава, 40 афіцыйных амэрыканскіх пратэстаў супраць камуністычнае палітыкі ад ліпеня 1945 да сьнежня 1947 г. і зьвязаны з гэтым абмен лістоў.

# Па кутках эміграцыі

### І Ў АМЭРЫЦЫ — ЗРУШЫЛАСЯ...

Толькі нумар таму мелі мы радасьць падаць чытачом вестку пра пачатак гуртаваньня нашых суродзічаў у Аргентыне. Сяньня маем прыемнасьць пацешыць іх яшчэ мо радаснейшай навінаю: як падаюць із Чыкаго (ЗША), пачынаецца й тут аціверажэньне ад чаду саветафільства й праца на нацыянальным грунце.

Афіцыйна налічваецца ў ЗША больш за 500.000 Беларусаў. Іхная нацыянальная сьведамасьць і арганізацыйнае жыцьцё здаўна будзілі шмат пажаданьняў. Вялізная бальшыня Беларусаў прыбыла ў Амэрыку яшчэ перад першай сусьветнай вайной, ня вывезшы з краю, затопленага тады расейшчынай, глыбейшае нацыянальнае сьведамасьці. Аднак, яшчэ задоўга перад другой вайной была заснаваная ў Чыкаго Беларуская Нацыянальная Рада, якая паставіла сабе за мэту зарганізаваць Беларусаў і быць ім за абаронніцу іхных нацыянальных інтарэсаў. Нажаль, з прычыны антыбеларускіх інтрыгаў, дзейнасьць Бел. Нац. Рады блізу ўвесь час была спаралiжаваная.

Але апошнім часам нацыянальная сьведамасьць Беларусаў у Амэрыцы пачала ўздыймацца, дый сябры Рады паставілі станаўкі супраціў усякім інтрыгам. Адбыліся надовечы перавыбары, і на чале Рады сталі ведамыя патрыёты-незалежнікі: старшыня — **Чопка** Павал, сакратар — **Лабач** Ігнат, скарбнік — **Аблажэй** Макар.

Адразу яны выявілі глыбейшую ініцыятыву, узяўшыся за арганізацыю ўрачыстага сьвяткаваньня ўгодак 25 Сакавіка. Мае адбыцца беларуская багаслужба з масавым удзелам грамадзянства, урачыстая акадэмія й праз радыё наданыя прамовы, прысьвечаныя 25 Сакавіку.

Таксама праектуецца ў будучыні выдаваць беларускую газэту, якая-б абараняла нацыянальныя інтарэсы Беларусаў у Амэрыцы.

Мы з свайго боку пажадаем новаму кіраўніцтву Бел. Нац. Рады як найбольшых удачаў у задуманым, гатовыя кажны час памагчы ў патрэбе радаю й справаю.

Адрыс Беларускае Нацыянальнае Рады: Whiteruthenian National Concil — 2623 W. Auguste Blvd. — Chicago 22, Illinois, U. S. A.

### НАШАЯ ПЕРАМОГА

Нядаўна я пісаў у нашую газэту аб цяжкім палажэньні беларускіх перамяшчэнцаў, што жылі ў польскім лягеры ў Альтэнштаце. Сяньня сьляшаюся паведаміць, што гэтыя зьдзекі для ладнае часткі Беларусаў з Альтэнштату ўжо скончыліся. Дзякуючы нашым упорыстым стараньням і выдатнай памозе Беларускага Камітэту на Амэрыканскую Зону Нямеччыны, найбольш актыўныя Беларусы з Альтэнштату ў ліку сотні чалавек у палавіне лютага былі перавезеныя ў лягер у Мітэнвальдзе, дзе папоўнілі наяўную ўжо там і добра зарганізаваную беларускую групу. Цяпер мы ў Мітэнвальдзе творым асобную беларускую сям'ю й свабодна праводзім беларускую культурна-нацыянальную й грамадзкую працу. Нашая нацыянальная група, якая сяньня налічвае 220 чалавек, будзе паступова павялічвацца, бо да нас маюць перавезьці яшчэ Беларусаў зь іншых чужанацыянальных лягераў нашае акругі. А таксама маем надзею, што й тыя Беларусы, якія яшчэ, дзякуючы сваёй малой сьведамасьці і агітацыям ды застрашваньням, засталіся ў Альтэнштаце, неўзабаве зразумеюць сваю памылку й таксама пераедуць да нас.

А ў нас сяньня ўдала разгортаецца грамадзкая й культурная праца. Маем сваю беларускую школу, дзіцячы садок, сваю скаўцкую арганізацыю, якая нядаўна вельмі ўрачыста сьвяткавала пасьвячэньне свайго сьцягу. Нашая моладзь з энтузіязмам рыхтуе цяпер тэатральны паказ. 29 лютага наведаў наш лягер прадстаўнік Беларускага Камітэту на Амэрыканскую Зону Нямеччыны сп. Ст. Станкевіч і прачытаў для нашых жыхароў даклад аб паўстаньні й дзейнасьці нашае гаспадарстваўскае рэпрэзэнтацыі — Рады і Ўраду БНР. Пасьля дакладу разгарнулася дыскусія, якая сьветчыла аб вялікім зацікаўленьні нашых жыхароў нацыянальна-вызвольнымі праблемамі.

Сяньня можам сьмела сказаць, што спасярод беларускіх асяродкаў у Амэрыканскай Зоне Нямеччыны паўстаў яшчэ адзін новы асяродак — Мітэнвальд.

**Зуб.**

---

## КАМУНІКАТ № 2

**ЦЭНТРАЛЬНАЕ ВЫБАРНАЕ КАМІСІІ для перавыбараў БЕЛАРУСКАГА ЦЭНТРАЛЬНАГА ДАПАМАГОВАГА КАМІТЭТУ Ў НЯМЕЧЧЫНЕ**

У выкананьне пададзенага ў нашым Камунікаце ад 23. II. 48 (гл. «Бацькаўшчына», № 6 (9) ад 29. II. 48) паведамляецца грамадзянству:

**Склад Цэнтральнае Выбарнае Камісіі**, абранае на паседжаньні Беларускага Цэнтральнага Камітэту **разам** із Старшынямі Зонных Камітэтаў 22 лютага **сёлета**, наступны: Старшыня Камісіі — Д-р Станіслаў **Станкевіч**, сябры — Мгр. Мікалай **Кунцэвіч** і Віталь **Кажан.** Адрыс Камісіі: (13b) Osterhofen, Ndb., Whiteruthenian DP-Camp.

Старшыня Выбарнае Камісіі на Амэрыканскую Зону Нямеччыны — Уладзімер **Кабушка**. Адрыс той самы.

Старшыня Выбарнае Камісіі на Ангельскую Зону — Д-р Ігнат **Гагалінскі.** Адрыс: (20) Wattenstedt b. Braunschweig, Dental Center Gutihaus.

Старшыня Выбарнае Камісіі на Францускую Зону — Д-р Віктар **Войтэнка.** Адрыс: (14b) Saulgau, Kaiserstr. 33.

**Календар выбараў** наступны:

**12. 3. 48:** Скліканьне у лягерах і нацыянальных групах **агульных сходаў** выбіральнікаў, азнаямленьне іх з Выбарнай Ардынацыяй і выбары Акруговых Выбарных Камісіяў згодна з § 5 Выбарнай Ардынацыі.

**14. 3. 48:** Заканчэньне сьпісаў выбіральнікаў і паданьне іх да агульнага ведама.

**16. 3. 48:** Канчальны тэрмін падаваньня Акруговым Выбарным Камісіям **сьпісаў кандыдатаў** згодна з § 10 Выбарнай Ардынацыі і паданьне іх да публічнага ведама.

**18—21. 3. 48. Галасаваньне.** Кажная Выбарная Акруга ў вадзін з пададзеных тут дзён.

Калі мясцовыя абставіны будуць вымагаць, Акруговыя Выбарныя Камісіі могуць рабіць некаторыя зьмены ў выбарным календары, паведамляючы аб гэтым Зонныя Выбарныя Камісіі.

Выбарная Ардынацыя ўжо разасланая беспасярэдня ўва ўсе беларускія лягеры й зарганізаваныя нацыянальныя групы ў чужых лягерах.

Калі-б дзе-небудзь няпрыязна настроеная да Беларусаў лягерная адміністрацыя ці іншыя дзейнікі рабілі перашкоды ў правядзеньні выбараў, трэба інтэрвэніяваць у мясцовых аддзелах IPO, а ў скрайнім выпадку — у Зоннай Выбарнай Камісіі. Зазначаем, што **вайсковыя й ірайскія ўлады рэспэктуюць Беларускі Цэнтральны Дапамаговы Камітэт, як законную агульнабеларускую рэпрэзэнтацыю, а дзеля гэтага яны ня будуць перашкаджаць у правядзеньні выбараў.**

**ЦЭНТРАЛЬНАЯ ВЫБАРНАЯ КАМІСІЯ**

Остэргофэн, 10 сакавіка 1948 г.

---

## ДА ВЫБАРАЎ

Як падае зьмешчаны сяньня ў «Бацькаўшчыне» Камунікат Цэнтральнае Выбарнае Камісіі, між 18 і 21 сакавіком 1948 г. адбудуцца ў беларускіх лягерах і нацыянальных групах заходніх зонаў Нямеччыны выбары дэлегатаў на зьезд, які сваім парадкам правядзець перавыбары кіраўнічых органаў Беларускага Цэнтральнага Дапамаговага Камітэту ў Нямеччыне. Гэтыя выбары стануцца бясспрэчна аднэй з найважнейшых падзеяў у нашым эміграцыйным жыцьці. Калі яшчэ 29-га сьнежня летась на паседжаньні Цэнтральнага Камітэту запала пастанова аб перавыбарах, дык мелася на ўвеце ня толькі правесьці законную зьмену кіраўніцтва нашага Цэнтральнага Камітэту пасьля сканчэньня ягонае кадэнцыі, але таксама прычыніцца такім спосабам да як найшырэйшае кансалідацыі нашага грамадзянства ў Нямеччыне праз уцягненьне яго ў выбарную акцыю й даньне шырокіх магчымасьцяў пастанаўляць у справе нашага арганізаванага грамадзкага жыцьця на чужыне. Гэтыя спадзяваньні былі зусім рэальныя, бо выбарная ардынацыя дае магчымасьць усім бяз вынятку Беларусам ад 18 год выбіраць і ад 25 год быць выбранымі. Пры гэтым ардынацыя забясьпечвае выбіральнікам усеагульнае, роўнае, беспасярэдняе, патаёмнае й прапарцыянальнае галасаваньне, такім парадкам як найшчыра адказваючы усім асноўным прынцыпам заходняга дэмакратызму. Пры такіх выбарах няма й ня можа быць ніякіх абмежаньняў, ані прывілеяў для тых ці іншых грамадзкіх або палітычных групаў, а ўсе карыстаюцца аднолькавымі выбарнымі правамі. На тым-жа паседжаньні было таксама пастаноўлена, што пасьля перавыбараў Цэнтральнага Камітэту адбудуцца такія-ж самыя перавыбары й нашых Зонных Камітэтаў.

І няма ніякіх асноваў дапушчаць, што хто-небудзь із сумленных Беларусаў, якія кіруюцца добрай воляй і руплівасьцяй аб нацыянальнай справе, будзе незадаволены з такіх выбараў. І мы гэтага не дапушчаем, бо верым, што асноўная маса нашае эміграцыі стаіць на цьвёрдых нацыянальных пазыцыях і шчыра жадае творчае й пазытыўнае грамадзкае працы.

Аднак-жа й цяпер знайшлася групка, якая, выглядае, што пастанавіла за ўсякую цану ўнесьці дэзарыентацыю ў нашыя эміграцыйныя масы й разьбіць нацыянальнае адзінства. Гэтая групка выдала нядаўна адозву аб правядзеньні выбараў у нейкае новае «беларускае цэнтральнае эміграцыйнае прадстаўніцтва» й пачала ўжо сваю выбарную кампанію.

Каму й на што ўсё гэта трэба? Кажны з нас мусіць добра здаць сабе справу з таго, што беларуская цэнтральная рэпрэзэнтацыя ў нас ёсьць ад даўжэйшага часу, і няма найменшае патрэбы тварыць яшчэ нешта новае. Заданьні гэткае рэпрэзэнтацыі па лініі нашае дзяржаўнасьці годна выконваюць Прэзыдэнт, Рада і Ўрад Беларускае Народнае Рэспублікі. Гэтыя найвышэйшыя нашыя дзяржаўна-палітычныя дзейнікі, маючы мандат Першага Ўсебеларускага Кангрэсу з 1917 г., зьяўляюцца праўнымі спадкаемцамі волі народу, на працягу 30-цёх год ніразу ня сплямілі сябе супрацоўніцтвам ці іншымі сувязямі з акупацыйнымі ўладамі на Беларусі, карыстаюцца сяньня прызнаньнем сярод іншых заходніх дэмакратыяў. У галіне-ж дабрадзейна-грамадзкай у нас больш за два гады працуюць Беларускі Цэнтральны Дапамаговы Камітэт і Зонныя Камітэты на Амэрыканскую, Ангельскую й Францускую зоны Нямеччыны.

Гэтыя Камітэты пачалі сваю працу яшчэ тымі небясьпечнымі часамі, калі ў заходняй Нямеччыне свабодна палявалі на нашых людзей савецкія афіцэры, а факты прымусовае рэпатрыяцыі не належалі да адасобленых зьяваў. Дзякуючы гэтым Камітэтам уратавана было шмат людзей ад прымусовае рэпатрыяцыі, вылучана ці малая колькасьць нашых суродзічаў у беларускія лягеры й нацыянальныя групы, зарганізавана беларускае школьніцтва й культурная праца, нарэшце, гэтымі-ж Камітэтамі атрыманы дазвол на нацыянальную прэсу й створаныя магчымасьці ейнага выдаваньня. Усе нашыя Камітэты заўсёды сьмела й станоўка выступалі перад аліянцкімі вайсковымі й іраўскімі (унраўскімі) уладамі ў вабароне правоў беларускіх перамяшчэнцаў і шмат што зрабілі ў гэтай галіне. Беларускі Цэнтральны Камітэт ужо больш за два гады, як сябра Міжнацыянальнага Камітэту ДП і палітычных уцекачоў і, супрацоўнічаючы там зь іншымі нацыянальнасьцямі, рэпрэзэнтуе й прапагуе беларускую праблему на міжнацыянальным грунце.

Дык — ці-ж ёсьць патрэба разбураць сяньня гэтыя арганізацыі і на іхным месцы тварыць нешта новае й бліжэй нязнанае?

Няма дзіва, калі каму-небудзь можа не падабацца тая або іншая дзейнасьць нашых Камітэтаў, або іхны асабовы склад. **Дык на гэта-ж і робяцца перавыбары нашых Камітэтаў, каб нашае грамадзянства магло паклікаць да працы ў іх тых людзей, да якіх яно мае найбольшы давер. Ды й тэй групцы, што падпісала ўспомненую адозву, ніхто не зачыняе магчымасьцяў узяць удзел у перавыбарах Камітэту й навет самой быць у іх выбранай.**

Вось-жа выбары й павінны паказаць, ці ходзіць гэтым людзям пра запраўднае паразуменьне й кансалідацыю беларускіх нацыянальных сілаў на чужыне, пра што яны так часта і ўсюды прывыклі гаварыць. Калі-ж дэзарыентацыйная й разьбівацкая работа стварэньня новага «эміграцыйнага прадстаўніцтва» будзе йсьці й далей, дык бадай ці ёсьць патрэба давадзіць, каму на карысьць яна пойдзе...

Мы моцна верым, што нашае грамадзянства дакладна ўжо разумее ўсё гэта й пойдзе толькі на выбары свайго законнага, працай заслужанага нацыянальна-грамадзкага прадстаўніцтва — Беларускага Цэнтральнага Дапамаговага Камітэту ў Нямеччыне.

**Я. Каранеўскі.**

---

## З БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

### АРХЕАЛЁГІЧНАЯ ПРАЦА

**Менск (БЕЛТА-радыё).** Сэктар археалёгіі Інстытуту гісторыі Акадэміі Навукаў БССР закончыў складаньне «рабочае карты» пасяленьняў каменнага й бронзавага вякоў на тэрыторыі БССР. На карце нанесеныя стаянкі й пасяленьні канца ледавіковага пэрыяду.

Вялікую цікавасьць становяць **раскопы на месцы старога Менску.** Тут знойдзеныя рэшткі пабудоваў, абломкі судзьдзя й розныя прылады працы із XI і XII в.в. Раскопы будуць весьціся далей.

---



## ШУКАЮЦЬ...

**Кошт абвесткі — па аднэй марцы за кажнае паасобнае слова. Аплата наперад.**

Бацьку й брата **Шышэя Івана**, нар. 12. X. 1885 г. у Краскоўскай Гары, Наваградчына, і **Канстантына**, нар. 10. II. 1922 г. тамсама (у 1944 г. вывезены Немцамі, у 1945 г. былі каля Ліпску на хваброўцы) — Шышэя Ганна. Весткі на адрыс: Szyszeja Anna (23) Versen Meppen, Polish DP Camp, Baracke Nr. 8.

Сына **Шаграя Мікалая**, нар. 1926, зь Бялынічаў, Магілеўск. акр. — Шаграй Захар. Весткі на адрыс: Passau, Mayerhoflager, Zimmer 21.

Браценьніка **Белага Язэпа**, нар. 1925, зь Бялынічаў, Магілеўск. акр. — Шпакоўская Марыя. Весткі на адрыс: Passau, Mayerhoflager.

---

Whiteruthenian Newspaper „The Fatherland"

Authorized by Headquarters European Command Civil Affairs Division A P O 757, A. G. 383, 7 GEC-AGO.

Administration — (13b) Osterhofen, Ndby., Whiteruthenian D. P. Camp.

Printed by: Hils & Maier, Dingolfing, Bruckstraße 99.